ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 20 (2370) 19 мая 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## ГЕРОІ ВЯДОМЫЯ І НЕВЯДОМЫЯ

# ЛЁС МАРУСІ КАМІНСКАЙ

**Больш як паўстагоддзя аддзяляе нас ад гераічных і трагічных падзей другой сусветнай вайны, ад яе ліхалецця, яе жахаў і ахвяр. За свабоду сваёй Радзімы, за разняволенне народаў Еўропы ад фашысцкага ярма змагаліся і гінулі тысячы, дзесяткі тысяч беларускіх патрыётаў -- як на франтах, так і ў глыбокім тыле гітлераўскіх войск. Подзвігі многіх герояў шырока вядомы, ім прысвечаны кнігі, фільмы, песні... А колькі з тых, хто ўнёс няхай сабе і сціплы ўклад у агульную перамогу, засталося нам невядомымі! Асабліва горка ўсведамляць, што часам іх ведаюць і шануюць у тых краінах, за чыю свабоду яны ахвяравалі жыццём, але не ведаюць на Радзіме. Пра лёс адной такой невядомай гераіні-мінчанкі расказвае славацкі літаратар Мілан Варсік у сваёй кнізе "Завяшчайце маёй маці", урывак з якой прапануем нашым чытачам.**

У першыя пасля вызвалення дні мая 1945 года, калі яшчэ ва ўсіх на памяці былі жахі вайны, па Трэнчыне разнеслася страшная вестка: у розных кварталах горада былі выяўлены масавыя пахаванні, а ў іх -- знявечаныя целы забітых партызан. Амаль са ўсёй Славакіі ў Трэнчын пацягнуліся людзі -- бацькі, мацяркі, жонкі, дзеці тых, хто пасля перамогі не вярнуўся дадому і чые сляды губляліся тут, у Трэнчыне. 18 мая спецыяльная камісія пачала раскопваць магілы. Было выяўлена 69 забітых: 65 мужчын і 4 жанчыны. Трупы па большай частцы былі так знявечаны, што ідэнтыфікаваць іх даводзілася з цяжкасцю.

Аднойчы, калі раскопвалі пятую па ліку магілу, падышоў да яе і жыхар Трэнчына Якуб Веташка. Невядома нават, што яго сюды цягнула, бо ніхто з сямейства Веташкаў не прапаў. Можа, было якое прадчуванне? Бо ўсё ж не было ніякіх звестак пра Марусю з тых часоў, як яе забралі ў гестапа. А Марусю яны з жонкай ведалі. Гадзін у адзінаццаць услед за Якубам прыйшла да магілы і яго жонка. Спачатку адкрыліся целы двух мужчын, іх з асцярогай дасталі з зямлі. У адным пазналі Яна Дэрка з недалёкай вёскі Кубры, другога апазналі па трынаццаці фотанегатывах у кішэні: партызан з брыгады імя Яна Жыжкі Штэфан Шрамэк з Валашскай Белай -- яму было ўсяго дваццаць два гады.

Пад гэтымі двума целамі было яшчэ два -- са звязанымі рукамі, з кулямі ў галовах, у аднаго раструшчаны чэрап. Выгляд мелі такі страшны, што нават мужчыны вымушаны былі адвярнуцца. Целы паклалі на сталы для апазнання. Падышоў бліжэй і Якуб Вета[illegible] зірнуў на адзін труп, на д[illegible] і сам спалохаўся сваёй здагадкі: "Гэта ж яна...". Паглядзеў яшчэ раз, больш уважліва, абышоў вакол стала з мёртвай жанчынай, каб больш пільна ўгледзецца ў твар. Не, поўнай упэўненас[illegible] яго не было, хаця надта ж [illegible]добная яна на Марусю...

Якуб Веташка паклікаў жонку і ўгаварыў яе вытрымаць гэтае жахлівае відовішча і ўважліва ўгледзецца ў твар знявечанага трупа. Не, ён не сказаў, каго нагадала яму мёртвая жанчына, не намякнуў нават, пра каго падумаў. "Ты толькі паглядзі", -- упрошваў ён.

Сабраўшы ўсю сваю мужнасць, пані Веташкава падышла да стала. Доўга, вельмі доўга ўзіралася яна ў твар мёртвай, а потым павярнулася да мужа:

-- Але ж, Якўб, гэта наша Маруся... Наша Маруся...

Тады ж, у маі сорак пятага, муж і жонка Веташкавы расказалі следчай камісіі ўсё, што яны пра Марусю ведалі.

"Нябожчыцу звалі Маруся Камінская. Перад самым пачаткам паўстання[1] яна жыла ў нас, а да таго нейкі час сядзела ў Ілаўскай турме. Яна старалася прабрацца да партызан, але, здаецца, ёй гэта не ўдалося. А можа, удалося неяк звязацца з імі, бо час ад часу яна ад нас некуды сыходзіла, можа была сувязной, але ж яна ніколі не дзялілася з намі сваімі планамі, не гаварыла, куды хадзіла, з кім сустракалася. Яна мела дваццаць тры гады і была савецкай лётчыцай, іх самалёт збілі недзе над Славакіяй...".

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

[1] Славацкае нацыянальнае паўстанне пачалося 29 жніўня 1944 г.



Усё часцей і часцей апошнім часам мы заўважаем, што з самым каштоўным -- здароўем нацыі -- адбываецца нешта трывожнае і нядобрае. Адраджаюцца даўно забытыя хваробы, "маладзеюць" тыя, якія мы традыцыйна прывыклі лічыць захворваннямі пажылых людзей, дрэннае самаадчуванне становіцца амаль паўсядзённай нормай. А як жа інакш можа быць, калі ўзровень жыцця падае літаральна на вачах, усё менш і менш сем'яў, што не эканомяць на самых неабходных прадуктах харчава[illegible], "зберажэнне паліва" аб[illegible]ваецца холадам у малень[illegible] кватэрах, дзе ў парушэнне ўсіх санітарных нормаў жывуць часам па некалькі сем'яў. Ды і вынікі Чарнобыля, да якіх мы ўжо прызвычаіліся, як да суседа, што жыве за сцяно[illegible] працягваюць сваю справу.. [illegible] "што рабіць?" -- гаворым мы, [illegible] глытаем чарговую таблетку, якую параіў прыняць "ад галавы" ці "ад жывата" саслужывец ці знаёмы, бо няма часу зайсці да доктара ў раённую паліклініку, і няма грошай, каб звярнуцца да платнага ўрача.

Віктар Сакалоў, можна лічыць не толькі своечасовым, але нават і запозненым. Ні для каго ўжо не сакрэт, што той жа Чарнобыль з'явіўся моцным каталізатарам для хвароб, звязаных з парушэннем імунітэту, з кожным днём растуць цэны на самыя неабходныя лекі, ды і тыя ўсё часцей і часцей выклікаюць такія алергічныя рэакцыі, што нават самі ўрачы не ведаюць, як іх лячыць. А між тым, ста-

## НЕТРАДЫЦЫЙНАЯ МЕДЫЦЫНА

# У КОЖНЫМ ЧАЛАВЕКУ АДБІВАЕЦЦА СУСВЕТ

У гэтых умовах адкрыццё кафедры рэабілітацыі і нетрадыцыйных метадаў аздараўлення ў Акадэміі фізічнага выхавання і спорту Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальвае прафесар

годдзямі на Усходзе выпрацоўваліся метады ўзнаўлення чалавечага арганізму, лячэння, максімальна набліжанага да прыроды, якое было звернута на абуджэнне натуральных сіл нашага цела і душы. Пра ўсё гэта мне расказвае старшы выкладчык гэтай кафедры, доктар іглрэфлексатэрапеўт, фітатэрапеўт, спецыяліст усходняга масажу Дзмітрый БОРЫС. Адкуль у беларускага ўрача, што нарадзіўся і вырас на Віцебшчыне, усе гэтыя ўсходнія "тытулы" і такое незвычайнае захапленне нетрадыцыйнымі метадамі аздараўлення? У свае 20 гадоў Дзмітрый меў доўгі спіс захворванняў, любое з якіх магло абарваць яго жыццё. Урачы "хуткай дапамогі", якія добра ведалі яго адрас, маглі зняць востры прыступ бранхіяльнай астмы, у бальніцы падлечвалі пнеўмасклероз і эмфізему лёгкіх, але ж кардынальных

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## СВЯТКУЮЦЬ АПОШНІЯ З МАГІКАН



**У афіцыйнай інфармацыі аб святкаванні 49-й гадавіны Перамогі над фашысцкай Германіяй было адзначана, што прайшло яно "шырока і ўрачыста". Гэта, вядома ж, прапагандысцкая гіпербала. Урачыстасць адбывалася ў асноўным на сталічным асфальце. Перыферыя, глыбінка ў гэты дзень працавала да сёмага поту, ветэраны вайны чухалі патыліцу: дзе дастаць каня, каб пасадзіць бульбу, узараць агарод!**

**Хаця, будзем шчырымі, з боку афіцыйных уладаў было зроблена ўсё, каб звярнуць увагу на апошніх з таго выбітага вайной пакалення, паказаць іх ролю ў нашым лёсе. Яны -- гэтыя нешматлікія ўжо франтавікі і партызаны, -- безумоўна, вартыя тых узнёслых слоў і Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі М. Грыба і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі В. Кебіча, з якімі кіраўнікі дзяржавы звярнуліся да ветэранаў вайны, і тых мелодый, якія ігралі для іх гарадскія аркестры. Ва ўсё гэта верылася б куды больш, каб не перадвыбарчая кампанія, у якой кожны голас на ўліку.**

**А 9 мая плошча Незалежнасці, праспект Скарыны і плошча Перамогі бачылі нешматлікія шэрагі ветэранаў. Хаця ўсё было ў "лепшых традыцыях" часоў партыйнага адзінаверства: ускладанне кветак да Вечнага агню прайшло пад чырвонымі сцягамі. І ніводнага бел-чырвона-белага. Дык чыё гэта было свята і ў якой дзяржаве!**

**Ян ГІЛЮЦЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: ветэраны Вялікай Айчыннай і ветэраны афганскай інтэрвенцыі.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

РАДАЎНІЦА



Святкаванне Радаўніцы -- даўні славянскі звычай, звязаны з культам продкаў. Аб паходжанні свята існуе шмат легенд, паданняў, вераванняў, але сэнс яго адзін: шанаванне памяці блізкіх людзей, магчымасць падумаць аб тленнасці жыцця і вечных каштоўнасцях -- дабрыні, спагадзе, сумленнасці. На Радаўніцу каля дарагіх магіл збіраюцца родзічы, каб папрасіць прабачэння ў памёршых за крыўды, нанесеныя ім, вольныя і нявольныя, каб пасядзець моцна, як гэта старая жанчына (на здымку), са с... кам і шкадаваннем у душы і вачах.

КОНСУЛЬСКІ ЗБОР

### УЕЗД ДАРАЖЭЕ

Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі паведаміла аб заснаванні з 15 мая 1994 года консульскага збору за выдачу візаў у ЗША грамадзянам Беларусі.

Кошт аднаразовай візы складае 60 долараў, шматразовай -- 300. Дыпламатам і афіцыйным асобам, якія адпраўляюцца ў камандзіроўку па ўрадавай лініі, візы па-ранейшаму будуць бясплатнымі.

Аднак, нягледзячы на гэта, Злучаныя Штаты падтрымліваюць ліквідацыю консульскіх збораў за выдачу візаў на ўзаемнай аснове.

РЫНАК ПРАЦЫ

### ДАГАНЯЕМ І ПЕРАГАНЯЕМ

Выканком Віцебскага аблсавета зацвердзіў праграму занятасці насельніцтва ў 1994 годзе. У яе аснову пакладзены прагноз сітуацыі на рынку працы з улікам працаўладкавання выпускнікоў школ, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў. Асаблівым радком выдзелены праблемы інвалідаў. Чакаецца, што к канцу года беспрацоўе ў вобласці перакрые мінулагодні паказчыкі на сем тысяч чалавек.

*"Гэта ўжо сёння, здалёк, у бяспечным спакоі можна займацца мудраваннем: варта было ці не варта абараняцца ад фашысцкіх захопнікаў, займацца -- наіўна ці тупа не бачачы ў гэтым граху перад сваёй Айчынай і перад сусветнай чалавечнасцю. Вялікі польскі паэт Уладзіслаў Бранеўскі, апальны пры ўладзе пілсудчыкаў, у 1939 годзе, заклікаючы свой народ на барацьбу з гітлераўцамі, пісаў (перакладаю даслоўна): "Есць у айчыне парахункі крыўдаў, чужым рукам іх не пракрэсліць". Мы і тады, у партызанах, -- хто менш, хто больш, але ж ведалі, што такое Сталін і яго ўлада, аднак мы ведалі таксама, што гітлераўцы ўварваліся на нашу зямлю не вызваляць яе, а паняволіць, ператварыць нас у сваё рабочае быдла.*

*Не трэба мадэрнізаваць гісторыю. Цяпер мы скрозь падымаем Грунвальд 1410 года, калі разам ваявалі беларусы, палякі, літоўцы. Тады, аказваецца, трэба было ваяваць. А калі супраць нямецкага фашызму паўсталі і Амерыка, і Англія, і Польшча, і Францыя, і Югаславія -- то гэта ўжо быццам бы і не Грунвальд, прычым сусветны".*

*(Янка БРЫЛЬ, народны пісьменнік Беларусі. З інтэрв'ю газеце "Звязда").*

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

### АДУКАВАНЫЯ НЕВУКІ

З 48 дырэктараў сярэдніх школ Гомеля 11 не вытрымалі экзамен на веданне беларускай мовы, які праводзіў па рашэнню ўпраўлення адукацыі абласны інстытут удасканалення настаўнікаў. Такое выпрабаванне трэба прайсці і намеснікам дырэктараў па навуковай і выхаваўчай рабоце.

ВЯЛІКАЯ АСВЕТНІЦА

### ПАМЯЦІ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

23 мая ў Мінску пройдуць духоўна-асветніцкія чытанні памяці Святой Ефрасінні Полацкай. Прадстаўнікі духавенства, інтэлігенцыі, навуковых колаў, пасольстваў і міністэрстваў прымуць удзел у гэтай акцыі. Людзям, якія шмат зрабілі ў галіне навукі, мастацтва, культуры, народнай адукацыі, будуць уручаны ганаровыя граматы. Жаночы фонд ... Полацкай пры падтрымцы фонду Сораса -- Беларусь выпушчаў таксама выпусціць кнігу "Святая Ефрасіння Полацкая. Духоўна-асветніцкія чытанні", куды разам з матэрыяламі аб жыцці вялікай беларускай асветніцы ўвойдуць яе жыціе і акафіст. Чытанні адбудуцца напярэдадні ўсенароднага Дня Святой, святкаванне якога адбудзецца 5 чэрвеня ў Полацку.

МАЛЫ ЗАЛАТЫ

### МАШЫНА, ЯКАЯ ВЫНАХОДЗІЦЬ

Малым залатым медалём на 22-м Міжнародным салоне вынаходстваў новых тэхналогій і прадуктаў, які праходзіў у Жэневе, адзначаны інтэлектуальныя праграмныя сістэмы пад агульнай назвай "Машына, якая вынаходзіць", распрацаваныя расійскімі і беларускімі вучонымі. Гэта шосты залаты медаль "Машыны, якая вынаходзіць" на буйнейшых сусветных выставах за пяцігадовую гісторыю праекта.

БОЖА, РАТУЙ НАС!

### І ГЭТА — ЛЮДЗІ...

У вёсцы Савічы Бабруйскага раёна пенсіянерка ў час сваркі засекла тапаром нецвярозага дзевятнаццацігадовага ўнука. У той жа дзень у вёсцы Нягоўля Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці п'яны рабочы Бабруйскага лясгаса збіў сваю маці-пенсіянерку да такой ступені, што яна памерла ад атрыманых траўм.

ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ

### "АБЯЦАНКІ - ЦАЦАНКІ?.."

Ну вось прэзідэнцкія гонкі пачаліся. Хто пераможа на гэтай далёка не марафонскай дыстанцыі, хутка стане вядома. Але не хацелася б, каб сярод пераможаных апынуліся тыя, за чыю лепшую долю абяцаюць змагацца да апошняй кроплі крыві прэтэндэнты на вярхоўную ўладу.

Ужо вылучыўся першы лідэр -- Вячаслаў Кебіч. Тэлебачанне пераможна абвясціла: ініцыятыўная група прэм'ер-міністра сабрала больш за сто тысяч подпісаў грамадзян і сто пяцьдзесят подпісаў народных дэпутатаў Беларусі. Тое, што спадар Кебіч так шпарка выбіўся наперад, цалкам заканамерна, якраз дзіўна было б, каб гэтага не адбылося. Ці дарма, гучыць па ўсіх праграмах (нават "Астанкіна"): цэны на кватэрную плату замарожаны, цяпер будзе расці толькі заработная плата. Вось толькі ў сувязі з гэтым напрошваецца шэраг пытанняў. Першы момант, галоўны: можа ў Беларусі спынілася інфляцыя? Эканамічны спад змяніўся пад'ёмам? З чаго будзе павышацца заработная плата? Адкуль возьмуцца грошы? Па-другое: ці карэктна, будучы чалавекам пры вялікіх паўнамоцтвах, выкарыстоўваць у перадвыбарнай барацьбе сваё прывілеяванае становішча? Зразумела, што канкурэнты В. Кебіча проста не маюць магчымасці рабіць абвесткі накшталт "цэны больш не ўзнімуцца". Добра быць "добрым" прэм'ер-міністрам. І апошняе. Ці можна пачынаць перадвыбарную агітацыю (а толькі так і варта ацэньваць шматлікія рэпартажы і каментарыі на карысць В. Кебіча) у сродках масавай інфармацыі яшчэ да афіцыйнай рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты? Пытанні, пытанні... Дарэчы, адказы на іх не такія ўжо і складаныя.

Што тычыцца астатніх удзельнікаў прэзідэнцкіх гонак -- яны на сённяшні дзень "тёмные лошадки". Сякія-такія прагнозы робяцца, але нагадваюць варажбу на каваай гушчы. Тым больш, што ў стройных шэрагах прэтэндэнтаў шмат людзей выпадковых. Як высветлілася, дэфіцыту жадаючых кіраваць дзяржавай у нас няма. З аднаго боку, магчыма, гэта і нядрэнна. Але з другога -- зноў і зноў узгадваецца знакамітая ленінская "кухарка"...

Сярод патэнцыяльных лідэраў значыцца некалькі вядомых на Беларусі прозвішчаў. Але прадстаўляюць гэтыя людзі фактычна толькі саміх сябе. За імі, калі і стаіць, то нязначная палітычная сіла, якая сама мае патрэбу ў палітычнай рэкламе. Тычыцца гэта і Аляксандра Лукашэнкі, які абяцае вывесці на чыстую ваду ўсіх злодзеяў і карупцыянераў. Між іншым, пра чыстую ваду мы ўжо чулі некалькі гадоў назад, калі "разганялі" камуністаў, але сумняваюся, ці стане хто-небудзь сёння сцвярджаць, што ад таго ёсць плён. Такая сітуацыя ў значнай ступені натуральная. Мы -- краіна бедных людзей. Але ж у прыроду чалавека закладзена імкненне да асабістага дабрабыту, і часцей за ўсё, пакуль гэты інстынкт не будзе задаволены, чакаць альтруізму не прыходзіцца. А калі чалавек атрымлівае ўладу, з ёй ён аўтаматычна атрымлівае і магчымасць палепшыць свой уласны дабрабыт. Што большасць і робіць.

Да катэгорыі "міністраў без партфеля" можна аднесці і Станіслава Шушкевіча, якога падтрымала пакуль малавядомая шырокай публіцы Грамада. Спадар Шушкевіч нядаўна страціў сваю ўплывовую пасаду і ў адрозненне ад спадара Кебіча сёння рэальна нічога даць патэнцыяльным выбаршчыкам не можа, а таму заняты тым, што б'е сябе ў грудзі: я -- смелы, я -- дужы, вы толькі зноў верце мне.

Што тычыцца лідэра БНФ Зянона Пазьняка, яго акружэнне вельмі стараецца дагадзіць шэфу. Але часам здаецца, што было б лепш для самога кандыдата ў прэзідэнты, калі б яго паплечнікі стараліся больш прафесійна. Не ўпэўнена, што З. Пазьняку прынясе дадатковыя галасы такі збор подпісаў, які я бачыла ў цьмяным кутку падземнага пераходу каля Інстытута культуры -- побач з жабракамі, гандлярамі гваздзікамі і снікерсамі. За спіной цёпла апранутай кабеты, якая збірала подпісы, на сцяне быў прымацаваны няўклюдны плакацік, які нагадваў самаробныя пісулькі жабракоў з просьбай дапамагчы, хто чым можа.

На жаль, здаецца, яшчэ не да канца ўсвядомлена, што выбары прэзідэнта -- гэта вельмі сур'ёзная гульня, вынік якой у значнай ступені залежыць ад таго, наколькі жорстка будуць вытрымлівацца ўсе яе правілы. Дылетантызм тут не праходзіць, як пераканаў усіх нядаўні вопыт Расіі.

У працэсе збору подпісаў асабіста я высветліла, што жыву ў адным доме з кандыдатам у прэзідэнты ад камуністаў. Здарылася гэта так: у дзверы маёй кватэры пазванілі дзве мілыя, інтэлігентныя, ужо немаладыя жанчыны і прапанавалі распісацца за В. Новікава. Галоўны аргумент гучаў так: ён усё ж наш сусед. Тое, што сусед -- цікава, і, хутчэй за ўсё сапраўды чалавек добры, кажуць, дзяцей у яго многа. Але да апошняга часу я пра В. Новікава нічога нідзе не чула, нават ад пажылых кабет у дварэ, а вылучаць некага ў прэзідэнты толькі за тое, што ён "добры чалавек" -- ці не занадта?

Дарэчы, галасаваць нам так і прапануюць: дзе за асобу -- Лукашэнка, Шушкевіч, дзе за сімвал, назву -- "камуністы", "піва", дзе зусім не зразумела за што -- і прозвішча невядомае, і тое, што стаіць за ім таксама для большасці цёмны лес, напрыклад, інстытут менеджменту і кіравання. Гучыць прыгожа, нават інтрыгуюча, але што гэта на справе -- Бог яго ведае...

Наогул пачатак гонак атрымаўся даволі вялы. Але хутка скончыцца першы этап і пачнецца другі, цэнтральны, і магчыма больш цікавы -- перадвыбарная агітацыя ў сродках масавай інфармацыі, папросту кажучы, -- абяцанкі. Добра, няхай сабе пагавораць, а мы паслухаем. Галоўнае толькі, каб вядомая народная прымаўка пра "абяцанкі-цацанкі" сваёй другой часткай не тычылася тых, каму гэтыя абяцанкі будуць адрасавацца.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

БЕЛАРУСЬ -- ЛАТВІЯ

### ПАБРАЦІМСТВА

20 красавіка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбыўся ўстаноўчы сход прадстаўнікоў творчых саюзаў рэспублікі, грамадскіх арганізацый, вытворчых калектываў... Той веснавы дзень і стаў першым днём існавання новай грамадскай арганізацыі -- таварыства "Беларусь -- Латвія".

З VIII стагоддзя продкі беларусаў і продкі латышоў вядуць дыпламатыю ўзаемаразумення і добрасуседства. У чэрвені 1929 года вялікі Яніс Райніс, выступаючы на адкрыцці таварыства па культурным збліжэнні з народамі Усходу, гаварыў: "Два вялікія народы, з якім мы хочам збліжаць сваю культуру, гэта беларусы і велікарусы. Асаблівая сімпатычныя нам беларусы, гістарычна блізкія літоўцам".

У раду таварыства "Беларусь -- Латвія" ўвайшлі пісьменнікі (У. Арлоў, Р. Барадулін, А. Вярцінскі, Л. Дайнека), мастак (З. Дзевіскіба), кампазітар (А. Чыркун), кіраўнікі працоўных калектываў з розных абласцей Беларусі... Культурнаму збліжэнню двух суседніх дзяржаў будзе спрыяць народная артыстка Таццяна Мархель, педагог Г. Бобава, навуковы супрацоўнік І. Лучыц-Федарэц...

Сябры таварыства ўдзельнічалі ў канферэнцыі, прысвечанай памяці педагога і фалькларыста Сяргея Сахарава, якую правяло латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак", рыхтуюцца правесці вечар дайнаў, хочуць арганізаваць латышскае зямляцтва і наведаць мясціны на Беларусі, дзе існавалі латышскія калоніі. А 19 мая сумесна з Саюзамі пісьменнікаў Латвіі і Беларусі ў Доме літаратара пройдзе вечарына латышска-беларускага культурнага пабрацімства, прысвечаная памяці Я. Райніса (1865--1929) і 100-годдзю з дня нараджэння Я. Судрабкална (1894--1975). Вядучы вечарыны народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін раскажа пра свае асабістыя даўнія творчыя кантакты з латышскімі сябрамі, прадставіць госцей -- латышскіх паэтаў з Рыгі К. Скуеніекса, М. Чаклайса, Ю. Кронберга са Стакгольма. Сярод выступаючых будзе Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь пан Я. Лоўнікс.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,** старшыня рады таварыства "Беларусь -- Латвія".

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# АРХІМАНДРЫТ ЛЕЎ ГАРОШКА



Леў Гарошка нарадзіўся 26 лютага 1911 года ў вёсцы Трашчычы Стаўбцоўскага павета. Скончыў сямігодку ў Мíры і ў 1928 годзе паступіў у беларускую гімназію ў Навагрудку, пасля сканчэння якой у 1931 годзе праз пасрэдніцтва дырэктара гімназіі Івана Цеханоўскага і дырэктара Беларускага музея ў Вільні Антона Луцкевіча паступіў ў Львоўскую грэка-каталіцкую багаслоўскую акадэмію. Сям'я Гарошкаў афіцыйна была праваслаўнай, але ў ёй яшчэ жылі традыцыі вуніі, асабліва трымаўся "старой" веры дзед Льва. У акадэміі Леў Гарошка прабыў пяць гадоў і адзін год прадаўжаў вышэйшыя студыі ў Інсбруку (Аўстрыя). 17 кастрычніка 1937 года біскупам Мікітам Будкам у Львове Леў Гарошка быў рукапалажаны ў святары. Пачаўся новы перыяд дзейнасці -- служэнне Богу і свайму народу.

Першую літургію айцец Леў служыў у Дзяляцічах у прысутнасці шматлікага народу і роднага бацькі. Любяшоў, Грынічы, Гародня, Стоўбцы -- у кожным з гэтых месцаў, дзе працаваў Леў Гарошка, умовы для беларускай святарскай працы былі вельмі цяжкімі. Польскія ўлады не пакідалі ў спакоі, апячатвалі капліцы, прызначалі розныя прыдзірлівыя кары, пакуль загадам навагрудскага ваяводы ад 15 траўня 1939 года Леў Гарошка не быў выселены з пагранічнай паласы назаўсёды (як і ўсе марыяне-беларусы па загаду віленскага ваяводы выселены з Друі). Айцец Гарошка пераехаў у Збураж, потым у Баранавічы, дзе выкладаў беларускую мову ў гандлёвай школе, беларускую і лацінскую ў медыцынскім сёстраў. Разам з Экзархам Беларусі А. Неманцэвічам удзельнічаў у з'ездзе Экзархаў у Львове, уваходзіў у склад Экзархальнай Рады. У час вайны працаваў у Баранавічах у Медыцынскай школе, у розных беларускіх арганізацыях, на настаўніцкіх курсах. У асобе айца Льва гарманічна аб'ядналіся рысы добрага святара і беларускага патрыёта. У Баранавічах, калі немцы меліся вывезці на работы ў Нямеччыну школьную моладзь, ён, нягледзячы на пагрозу смерці, сказаў моладзі ратавацца і не прыходзіць у школу.

У чэрвені 1944 года Л. Гарошка прымаў удзел у II кангрэсе ў Мінску, які быў скліканы БЦР. Пасля разам з хваляй эміграцыі трапіў у Нямеччыну, дзе адразу пачаў арганізоўваць беларускія багаслужбы.

У верасні 1945 перабіраецца ў Рым, дзе выдае друкам малітоўнік "Божым Шляхам" (1946). Разам з іншымі беларускімі святарамі а. Чэславам Сіповічам і П. Татарыновічам звяртаецца да Папы наконт лёсу беларускіх католікаў. У выніку іх намаганняў Апостальскім Візітатарам беларусаў быў прызначаны біскуп Баляслаў Слокскане, латыш, які доўгі час жыў сярод беларусаў і добра ведаў беларускую мову і патрэбы вернікаў. Разам з а. Чэславам Сіповічам Леў Гарошка дапамагае ў справе арганізацыі жаўнераў-беларусаў арміі генерала Андэрса, лёс якіх закінуў у Італію, у справе пошуку старых сяброў, сем'яў, наладжвання кантактаў, згубленых у час вайны.

У канцы кастрычніка 1946 года а. Леў быў прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі і пераехаў у Парыж. Апрача рэлігійнай працы а. Леў займаўся грамадскай і выдавецкай дзейнасцю. Ён заснаваў часопіс "Божым Шляхам" і быў яго рэдактарам ад 1947 да канца 1957 года. Ён таксама друкаваўся ў іншых эміграцыйных выданнях, выдаваў свае працы асобнымі кніжкамі і брашурамі. Сярод якіх адзначым: "Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных знаходкаў". Парыж, 1948, "Душа". Парыж, 1948, "Сьв. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі". Парыж, 1950, "Своеасаблівасьці беларускай мовы". Парыж, 1951, "Беларусь у датах, ліках і фактах". Парь[illegible] 1953, "Культ Маці Божае ў Белар[illegible] (франц.). Парыж, 1956.

У 1959 годзе а. Гарошка вырашыў далучыцца да Кангрэгацыі Марыянаў і быў у навіцыяце айцоў Марыянаў у Рыме. У лютым 1960 года разам з айцом Германовічам [illegible] таксама належаў да Закону айцоў [illegible]рыянаў, перабіраецца ў Лонданскі Марыян Хаўс. У кастрычніку 1960 года біскуп Чэслаў Сіповіч назначыў Льва Гарошку рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. Ад 1962 да 1969 Леў Гарошка з'яўляўся суперыёрам (ігуменам) Дому Марыянаў у Лондане. Яго святарская поўная ахвярнасці праца не была пакінута без увагі. 16 снежня 1965 года Апостальскі Пасад надаў яму годнасць архімандрыта.

Ад 1970 году, пасля выхаду на пенсію прэлата П. Татарыновіча, Леў Гарошка пераехаў у Дом айцоў Марыянаў у Рыме, працаваў кіраўніком Беларускай секцыі Ватыканскага радыё і рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

28 ліпеня 1977 года а. Леў памёр у шпіталі імя Нэкер у Парыжы пасля аперацыі на нырках. 8 жніўня 1977 года пахаваны на могілках Св. Панкрацыя ў Лондане.

Леў Гарошка пакінуў вялікую спадчыну. Акрамя асобных кніжак (апошняя яго праца "Рэлігія і навука" выйшла за тыдзень перад аперацыяй), 10 гадавікоў часопіса "Божым Шляхам" (1947--1957), усяго 81 нумар, вялікую колькасць радыёперадачаў, якія засталіся ў форме машынапіснага матэрыялу (Архіў Беларускай секцыі Ватыканскага радыё, копіі ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане). Сярод незаконачаных прац ў -- "Зборнік беларускіх прыказкаў і прымаўкаў" (382 старонкі машынапіснага тэксту), слоўнік рэлігійна-царкоўных тэрмінаў. Шмат каштоўных кніжак і матэрыялаў перадаў Леў Гарошка ў Беларускі музей і бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане.

**Марыя МІЦКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Архімандрыт Леў ГАРОШКА ва ўсёй сваёй красе і павазе навучае Божы народ.**

# У КОЖНЫМ ЧАЛАВЕКУ АДБІВАЕЦЦА СУСВЕТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

спосабаў выратавання ад такіх хвароб медыкі не ведалі. Калі чалавеку няма чаго губляць, рашэнні заўсёды прымаюцца прасцей, і выйсце знаходзіцца. Дзмітрый Борыс вырашыў вылечыцца сам. Паступіў у медыцынскае вучылішча і стаў шукаць шляхі спецыялізацыі па нетрадыцыйных, ці як іх яшчэ называюць, альтэрнатыўных метадах медыцыны. Напэўна, інтуітыўна ён знайшоў той самы шлях, які дазволіў праз шмат год прыдзірлівай і строгай медкамісіі школы інструктараў па плаванню і аквалангістаў, якую ён скончыў, напісаць у медыцынскай картачцы "практычна здаровы".

Усё спрыяла яму на гэтым шляху. Нібы самі завучваліся цяжкія медыцынскія тэрміны, лёгка і без шпаргалак здаваліся экзамены... Потым была вучоба на факультэце народнай медыцыны ў Маскве, пасля якой -- накіраванне на вучобу ў Кітай. Нельга сказаць, каб Дзмітрый Борыс ехаў туды цалкам пераканааны, што знойдзе справу свайго жыцця. Было адчуванне, нібы нехта сказаў -- вось табе ключ ад чароўнага пакоя, у якім усё незвычайна і вельмі цікава. Дзверы гэтыя ён адчыніў, у пакой увайшоў... і згубіўся сярод незнаёмых рэчаў і з'яў. І таму паездка ў Кітай была спробай разабрацца, знайсці адказы на пытанні, якіх узнікала ўсё болей і болей. Ён не памыліўся, і зараз лічыць, што ўсходняя медыцына стала для яго ўжо не спецыяльнасцю, а спосабам жыцця і мыслення. У Кітаі Дзмітрый Борыс скончыў базавы [illegible]с па іглярэфлексатэрапіі Ц[illegible]янскага інстытута кітайскай традыцыйнай медыцыны, атрымаў там міжнародную атэстацыю ўрача-рэфлексатэрапеўта, якую выдаў яму аддзел аховы здароўя ўрада КНР, ганаровую грамату і прапанову прайсці практыку [illegible]натарыі горада Сінчэна, дзе спе[illegible]ізаваўся па пытаннях лячэння касцявых хвароб і рэабілітацыі. Праз некаторы час яго зноў запрасілі на стажыроўку ў Кітайскі медыцынскі універсітэт.

-- Дык у чым жа адрозненне ўсходняй медыцыны ад нашай, еўрапейскай, і галоўнае, ці могуць дапамагчы нам, людзям з цалкам іншай псіхалогіяй, традыцыямі і прывычкамі яе метады? -- пытаюся я ў Дзмітрыя Борыка.

-- Кітайская -- і ўвогуле ўсходняя медыцына імкнецца ў першую чаргу звярнуцца да душы чалавека, наблізіць яго да прыроды. Кітайскі ўрач ніколі не перапыніць хворага, які доўга, і здаецца, нецікава расказвае яму пра свае праблемы. І гэта правільна, бо яшчэ Гіпакрат пісаў, што дрэнны той урач, пасля размовы з якім хвораму не стала лепш. Што тычыцца нашай медыцыны, то кожны з нас хаця б аднойчы сутыкаўся з урачом, які за ўвесь час прыёму сказаў толькі тры словы -- заходзьце, распранайцеся, кладзіцеся... Еўрапейская медыцына пайшла па шляху развіцця складанай тэхнікі і дакладнага абсталявання. Але ж камп'ютэры, тамографы, самая дасканалая апаратура не могуць прааналізаваць настрой чалавека, абставіны і ўмовы яго жыцця, не дадуць адказы на пытанні, ад чаго пакутуе яго душа. Урач, гаворыць у Кітаі, павінен быць доктарам, настаўнікам і святаром, бо толькі аб'яднаўшы якасці гэтых трох прафесій, можна дапамагчы чалавеку разабрацца ў сабе. А многія нашы хваробы ў той ці іншай ступені выкліканы псіхалагічнымі фактарамі. Што тычыцца вашага пытання, наколькі ўсходняя медыцына можа дапамагчы чалавеку з "нашай" псіхалогіяй, хачу ўспомніць аднаго бізнесмена, які нядаўна звярнуўся да мяне. Ён літаральна патрабаваў, каб я даў яму таблетку, ад якой усё пройдзе "адразу і назаўсёды". "Мне вашы масажы, травы і іголкі не патрэбны, -- сказаў ён. -- Я на самалёт спазняюся"... Вось такая псіхалогія... Але я лічу, што справа не ў ёй, а, калі хочаце, у выхаванні, спажывецкіх адносінах да свайго здароўя і пераканнні, што за грошы можна набыць усё. Такому чалавеку давядзецца ці стаць іншым, ці хварэць па-ранейшаму.

-- Доўгі час усходнюю медыцыну ў нас лічылі ілжэнавукай і шаманствам, сёння ж такі час, што любы сантэхнік можа аб'явіць сябе экстрасенсам і афіцыйна сабраць поўную залу людзей, якія прагнуць выздараўлення. Як адрозніць спрытнага прайдзісвета ад сапраўднага ўрача і як увогуле ставіцца да такіх "лекараў"?

-- Метады псіхатэрапіі вядомы людзям з давён-даўна, і не толькі на Усходзе. І метады гэтыя трэба распрацоўваць, але падыходзіць да іх з навуковага пункту гледжання. Мы быццам бы цывілізаваныя, адукаваныя людзі, але кідаемся да розных чараўнікоў як і сто, і трыста год таму. Так было, і так будзе, пакуль ёсць на зямлі хворыя і спакутаваныя людзі, якія спадзяюцца на тое, што хаця б цуд дапаможа ім ці іх дзецям. Што ж тычыцца саміх "экстрасенсаў", то яны могуць вельмі доўга маніпуліраваць чалавечай свядомасцю, бо паспрабуй, дакажы, што ён хлусіць. Гаворыць такі чалавек: "Я зняў сурокі!", ці -- "Я залатаў вашы энергетычныя дзіркі, давайце грошы!" А як гэта праверыць? Сурокі -- катэгорыя нематэрыяльная... Мне ніколі не сустракаліся самазванцы, якія імкнуліся б у хірургію, бо там цана памылкі -- чалавечае жыццё, а тут існуюць афіцыйныя курсы, дзе праз шэсць дзён навучання выдаецца дыплом з правам лячыць хворых. Да таго ж, падчас модных заraз аздараўленчых сеансаў і калектыўных медытацый такі "ўрач" ніколі не стане пытацца ў кожнага пра яго дыягназ, і ў людзей могуць узнікнуць самыя розныя непрадугледжаныя рэакцыі. А хто можа гарантаваць, што за гэтыя шэсць дзён "экстрасенса" навучылі метадам спынення такіх рэакцый? Ужо вядомы выпадкі, калі пасля такіх сеансаў людзі прыходзілі дамоў і выкідваліся з акна. Так, псіхатэрапія і іншыя нетрадыцыйныя метады лячэння існуюць і павінны існаваць, але займацца імі могуць толькі прафесіяналы. Менавіта такіх прафесіяналаў, добрых спецыялістаў-рэабілітолагаў і будзе рыхтаваць наша кафедра. Да нас прыйшлі вучыцца людзі, якія ўжо маюць вопыт практычнай працы ў клініках і паліклініках, урачы, у якіх ёсць медыцынская адукацыя. Яны не проста хочуць вучыцца -- яны патрабуюць усё новых і новых ведаў, і гэта самае каштоўнае для мяне і загадчыка кафедры, доктара навук Тацяны Паляковай. Не ўсё пакуль гладка, але, як мне падаецца, менавіта тут, на спакутаванай Чарнобылем Беларусі такія ўрачы вельмі патрэбны.

На візітнай картачцы Дзмітрыя Борыса я заўважыла вельмі цікавую эмблему -- злучэнне сімвала еўрапейскай медыцыны -- змяі, што абвівае чашу, з сімваламі кітайскага светаўспрымання -- "інь" і "ян". У разважаннях урача я не сустрэла ўласцівай аднабокаму максімалізму абмежаванасці -- маўляў, паратунак прыйдзе да нас толькі праз усходнія метадыкі і спосабы лячэння.

-- Сапраўдны доктар павінен ведаць і выкарыстоўваць усё, што назапасіў чалавечы вопыт. Няма веды ў спосабаў лячэння, якія былі б некарыснымі, асабліва, калі справа тычыцца чалавечага жыцця, -- растлумачыў мне ён, і дадаў: -- Мы прывыклі з усялякай нагоды глытаць таблеткі, рабіць ін'екцыі моцных антыбіётыкаў. А шлях да здароўя пачынаецца не з аптэкі. Мы амаль нічога не ведаем пра магутныя абарончыя сілы ўласнага арганізму, атручваем яго лекамі і становімся ўсё слабейшымі і непрыстасаванымі да жыцця. Усходняя ж філасофія сцвярджае, што ў кожным чалавеку адбіваецца ўвесь Сусвет, у кожнай часціцы нашага цела -- увесь свет. Калі мы зможам пазнаць гэты свет, мы вернем сабе сваё здароўе без дапамогі хімічных сродкаў у айчынных і замежных упакоўках...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*АГУЛЬНЫ КЛОПАТ МУЗЕЙНЫХ РАБОТНІКАЎ*

# НЯХАЙ СПРЫЯЮЦЬ БОГ, ЧАС І ЛЮДЗІ

Бяжыць няўмольны час. Сённяшнія дні адыходзяць у гісторыю. але ўсё, з чым звязана жыццё чалавека (прадметы побыту, асабістыя рэчы, кнігі, дакументы, пабудовы...), захоўвае дух эпохі, з'яўляецца своеасаблівым адбіткам пэўнага перыяду цывілізацыі, паказчыкам яе духоўнай і матэрыяльнай культуры.

Ведаць сваё мінулае -- абавязак кожнага свядомага чалавека, бо менавіта там, у сівой мінуўшчыне, знаходзіцца ключ ад дзвярэй сучаснасці і будучыні.

Вялікую адказнасць за захаванне гістарычнай памяці народа нясуць перад грамадствам музеі. На тэрыторыі Беларусі, нягледзячы на складаныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы, павялічваецца колькасць музейных устаноў. Гэты факт сведчыць не толькі пра павелічэнне цікавасці да музеяў, але і пра ўзрастанне іх ролі ў духоўным развіцці грамадства, пра станоўчыя змены ў нацыянальнай свядомасці беларусаў. Усё разам дазваляе па-новаму паглядзець на музей: музей як скарбніцу духоўнай культуры народа, навуковых каштоўнасцей, культурна-гістарычнай і нацыянальнай спадчыны.

Дзейнасць музеяў самых розных профіляў разгортваецца, як вядома, на аснове іх фондаў. Праблема папаўнення калекцый, удасканаленне структуры фондаў заўсёды застаецца актуальнай. Аднак ці дастаткова павялічваць фонды толькі колькасна? Як найбольш рацыянальна павінны быць падрыхтаваны музейныя прадметы да актыўнага выкарыстання? Ці заўсёды паспяхова вырашаюцца навукова-даследчыя задачы? Якім чынам выпрацоўваецца крытэрый далейшага камплектавання фондаў?.. Гэтыя і іншыя пытанні турбуюць сёння многіх нацыянальных музейшчыкаў. Абмяняцца думкамі, падзяліцца вопытам, выпрацаваць пэўную агульную канцэпцыю па праблемах навукова-даследчай працы сродкаў і іх камплектавання сабраліся ў канцы сакавіка за "круглым сталом" супрацоўнікі Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Пасяджэнне было праведзена па ініцыятыве Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і праходзіла на базе Літаратурнага музея М. Багдановіча.

Навукова абгрунтаваным і праблемным было выступленне Антаніны Варашылавай, галоўнай захавальніцы фондаў рабочай групы па стварэнні Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. "Паколькі наш музей яшчэ толькі ствараецца, -- сказала Антаніна Аляксандраўна, -- а час наш звыш складаны, то можна сказаць, што ў нас скрозь адны праблемы: гэта праблема павышэння кваліфікацыі і абмену вопытам, праблема выезду ў экспедыцыі (асабліва замежныя) і вяртання нацыянальнай спадчыны, праблема пошукаў і ўліку профільных матэрыялаў у архівах і музеях Беларусі, праблема рэстаўрацыі..." І як зыходная ўсіх праблем на сучасным этапе была згадана праблема фінансавая. І ўсё ж за чатырохгадовы тэрмін свайго існавання рабочай групай сабрана звыш 4 000 экспанатаў, зроблены адлаведны ўлік, праведзена навукова-даследчая праца. Збор музейных прадметаў складаецца з дзесяці калекцый: калекцыі грампласцінак, музычных інструментаў, дакументаў, нотных рукапісаў, відэафільмаў мемарыяльна-рэчавай калекцыі, выяўленчых матэрыялаў, фатаграфій і рэпрадукцый, афіш і праграм, рэдкіх кніг. Сярод экспанатаў патрэбна адзначыць каштоўныя матэрыялы С. Новіка-Пяюна, М. Забэйды-Суміцкага, А. Міровіча, Л. Александроўскай, А. Баначыча...

Пасля выступлення прадстаўніка музея, які яшчэ толькі ствараецца, было цікава паслухаць Людмілу Амельчанка як дэлегата аднаго са старэйшых нацыянальных музеяў -- Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы. Людміла Канстанцінаўна прафесійна дала адказ на многія ўзнятыя праблемы, пацвердзіла прыкладамі з працы сваёй установы. Гаворачы пра крыніцы папаўнення калекцый, яна заўважыла, што першачарговая задача тут -- знайсці адрасы людзей, у якіх можна было б набыць патрэбныя экспанаты. Дапамагаюць і абвесткі ў газетах, і цесныя сувязі з нязменнымі сябрамі музея, тымі, хто дапамагаў ствараць экспазіцыю і хто да гэтага часу ахвяруе ўласныя рэчы на яе дапаўненне. Сябры музея ёсць не толькі ў рэспубліцы. Так, напрыклад, ад беларусаў Кліўленда, сказала дакладчыца, "да нас трапілі арыгінал фотаздымка "Я. Купала сярод удзельнікаў аб'яднання

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ЛЁС МАРУСІ КАМІНСКАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Тады, у маі сорак пятага, Веташкавы пра Марусю Камінскую больш не ведалі нічога.

Шэсцьдзесят дзевяць ахвяр знайшлі ў брацкіх магілах пад Трэнчынам. Шэсцьдзесят дзевяць жыццяў, і што ні жыццё, то сюжэт для рамана. У пераважнай большасці гэта былі альбо падпольшчыкі, альбо ўдзельнікі паўстання. Дваццаць шэсць ахвяр ідэнтыфікаваць не ўдалося. Іх сем'і, можа, і дагэтуль не ведаюць, што жыццёвы шлях найдаражэйшых ім людзей абарваўся за Матушавым замкам. Пра некаторых маюцца толькі самыя агульныя звесткі, як, напрыклад, пра трыццацігадовага аўстрыйца Франца Котумана або дваццацідвухгадовага француза П'ера Ларана.

Драматычным і багатым на хвалюючыя падзеі было жыццё Марусі Камінскай, хоць і было ёй зусім нямнога гадоў. Некаторыя перыяды яе жыцця і трагічнага яго канца мы сёння можам рэканструяваць на падставе абрывачных успамінаў невялікага кола людзей: мужа і жонкі Веташкавых, іх дачкі Вольгі, па мужу Меравай, а больш за ўсё сціплага салдата славацкай арміі, а пазней партызана Яна Навоя з Брэзна над Гронам. Што ж, вернемся ў мінулае, на пяць дзесяцігоддзяў назад, і паспрабуем высветліць, кім была гэта прыгожая жанчына, вобраз якой застаўся на фотаздымку з Вольгай Меравай, і паспрабуем прыўзняць заслону забыцця над яе жыццём.

Мы не ведаем, дзе яна нарадзілася, а калі яе забілі, ёй было прыкладна дваццаць тры гады — значыць, можна меркаваць, што нарадзілася яна недзе ў 1921 годзе. Паходжаннем была беларуска, можа і з Мінска. Пра яе дзяцінства і дзявочыя гады мы ведаем надзвычай мала. Перад самай вайной выйшла замуж, яе муж быў інжынерам, у іх нарадзіўся хлопчык. Лёс мужа невядомы -- нібыта ён быў прызваны ў армію і загінуў у баі з фашыстамі. Можа, менавіта прага помсты прывяла дваццацігадовую Марусю ў рух Супраціўлення. З Масквы, дзе яна тады жыла, яе закінулі ў родны край, на Беларусь. Маруся пасялілася ў бацькоўскім доме, дзе падрасталі яе сёстры. Тут пачалася яе падпольная антыфашысцкая дзейнасць.

Ішоў ужо 1943 год. Пад Мінскам, дзе жыла Маруся, размяшчалася так званая славацкая ахоўная дывізія. З гісторыі другой сусветнай вайны мы ведаем, што славацкія салдаты ў пераважнай сваёй большасці адмаўляліся служыць фашыстам і іх славацкім паслугачам і хутка адшукалі дарогу да савецкага падполля. Не толькі капітан Налепка, але і дзесяткі малодшых і старшых афіцэраў ясна паказалі, на чыім баку ў сусветным ваенным канфлікце стаіць звычайны славацкі чалавек.

Пазнаёміўшыся са славацкімі салдатамі, мінскія падпольшчыкі-антыфашысты дапамагалі ім перайсці да партызан, якія дзейнічалі ў беларускіх лясах. Так адбылося і з Янам Новоем. Пачалося з таго, што ён стаў заходзіць у беларускую сям'ю, у якой было тры ці чатыры дзяўчыны. Салдата, закінутага на далёкую чужыну, дзяўчаты прывабілі. А[illegible] за прыглянулася яму адна з іх -- Маруся. Тады ён яшчэ не ведаў, што яна ўдава, што ў Маскве ў яе застаўся сын і што яна -- адна з самых адказных сувязных паміж Мінскам і партызанскім лесам.

Славацкія салдаты сваіх поглядаў асабліва не таілі. Неяк Ян Навой намякнуў, што ён не супраць патрапіць на другі бок. А Маруся ведала, што ў лясах сярод партызан ужо многа славацкіх салдат, і ў яе была задача -- перапраўляць туды іншых. Прыйшоў час і для Яна Навоя з Брэзна. Выслізнуўшы з Мінска ўначы, яны з Марусяй і яшчэ адным салдатам дайшлі да бліжэйшай вёскі. Там Маруся пакінула дружбакоў у нейкай хаце і загадала пачакаць. Вярнуўшыся праз гадзіну, паведаміла, што партызанскі атрад пакуль не мае магчымасці іх прыняць. Навой і яго сябар былі расчараваны: яны ведалі, што праз некалькі дзён дывізію адводзяць з Беларусі, таму дзесяткі славакаў перабеглі да партызан, ды і астатнія ў той ці іншай ступені сімпатызавалі ім і мясцоваму насельніцтву. Аднак Маруся здзівіла Яна Навоя: "Вы ад'язджаеце? Дык і я паеду з вамі". Як успамінае праз многія гады Ян Навой, Маруся была дзяўчына рашучая, пярэчыць ёй не мела сэнсу. "Ну што ж, паедзеш дык паедзеш". Назаўтра, калі Ян на грузавіку прыехаў у горад, у адным з яго глухіх завулкаў Маруся ўскочыла ў кузаў пад брызент, так яе Ян давёз і да казармаў, а адтуль іх разам з машынай пагрузілі на чыгуначную платформу. Праз тры ці чатыры дні эшалон рушыў у дарогу -- ніхто не ведаў, куды. Адны меркавалі, што едуць дамоў, у Славакію, другія запэўнівалі, што ў акупіраваную Польшчу. Але толкам ніхто нічога не ведаў. Па польскай раўніне праехалі да Германіі, а там павярнулі на поўдзень і праз Аўстрыю прыбылі ў Італію. Паны ў Браціславе лічылі, што там, у Італіі, славакі не змогуць знайсці агульнай мовы з мясцовым насельніцтвам і не пачнуць перабягаць да тамтэйшых партызан. Толькі ж паны і тут пралічыліся. Спачатку салдаты ўцякалі паасобку, нібыта ў разведку, а потым беглі ўжо цэлымі групамі, пакуль нарэшце -- гэта ўжо быў пачатак 1945 года -- уся славацкая дывізія разам са сваім камандзірам Яраславам Кміцікевічам, не перайшла на бок італьянскіх партызан.

Але ж вернемся пакуль што ў 1944 год. Славацкая дывізія прыбыла ў сярэднюю Італію. Камандаванне размясцілася ў Імоле, а аўтамайстэрня, дзе служыў Ян, -- прыкладна за 14 кіламетраў ад Фуэнцы. Аднак перададзім слова Яну Навою.

"Маруся жыла ў Імоле, і я часта яе наведваў. Часам спатканне прызначала мне Маруся. Мы тады сустракаліся ў нейкім доме, дзе ніколі нікога не было, але і сам-насам мы доўга не заставаліся. Седзячы на кушэтцы, Маруся напружана некага чакала і, як толькі нехта стукаў у шыбу, тут жа выходзіла. Сам я гэтага стуку ніколі не чуў, а яна ўлоўлівала. Добра памятаю, што заўсёды, калі яна адыходзіла, то ў руках трымала газету, якую мы, славакі, выдавалі ў Італіі. Праз 10--15 хвілін яна вярталася з той жа газетай, толькі цяпер у ёй алоўкам было падкрэслена некалькі слоў або сказаў, аднак Маруся не давала паглядзець, якія словы ці фразы падкрэслены і пра што там ішла гаворка".

Паводле гэтых слоў, можна меркаваць, што Маруся Камінская выконвала нечыя заданні, што яна была звязана не толькі з італьянскім (ці славацкім) Супраціўленнем, але, відаць, мела кантакт (праз нейкі перадатчык або "паштовую скрынку" дзе-небудзь у горадзе або вёсцы, такія былі і ў славацкіх салдат для сувязі з партызанамі) і з Савецкім Саюзам. Несумненна, што і яе ад'езд з Беларусі меў больш важныя прычыны, чым раптоўны прыліў гарачага кахання да славацкага юнака. Зрэшты, паводле слоў Яна Навоя, з эшалонам ахоўнай дывізіі ў Італію трапіла некалькі беларускіх дзяўчат.

Але прасочым за лёсам Марусі Камінскай далей. Ян Навой жыў у Фуэнцы, яна -- у Імоле, дзе нібыта нелегальна працавала ў славацкім шпіталі, там і жыла. Але аднойчы, у халодны студзеньскі дзень, адбылася трагедыя: Марусю выкрылі, і яе, і Яна арыштавалі. Дні праз тры да Яна Навоя ў камеру папярэдняга зняволення зайшоў паручнік Глава і сказаў: "Калі вы падпішаце заяву, што згодны Марусю Камінскую ўзяць за жонку, то яна будзе выслана ў Славакію. Інакш мы будзем вымушаны перадаць яе немцам". Ян Навой, доўга не думаючы, такую заяву падпісаць згадзіўся. Паручнік Глава дастаў загадзя падрыхтаваны дакумент, і Навой, не вагаючыся, падпісаў. Але ўсё ж за садзейнічанне савецкай грамадзянцы, хоць бы нават і сваёй нявесце, Ян, як успамінае і сёння, атрымаў тры тыдні строгага карцэра, а Марыю Камінскую разам з шасцю яе сяброўкамі адправілі ў Славакію.

Навой сёння перакананы, што Марыя Камінская, якая павінна была стаць, але не стала яго жонкаю, была выслана ў Славакію недзе ў лютым 1944 года. Спачатку яе інтэрніравалі ў Падгарэлай Машы за Брэзнам, адтуль перавялі ў Ілаву. У канцы чэрвеня прыехаў у адпачынак на радзіму і Ян Навой і адразу ж пачаў хадайнічаць за Марусю. ён дайшоў аж да Галоўнай управы дзяржаўнай бяспекі ў Браціславе. І на падставе дакументаў, перш за ўсё, відаць, заявы аб згодзе на шлюб, Марусю з Ілаўскай турмы выпусцілі, і Ян адвёз яе ў Брэзна. Некалькі тыдняў (можа, толькі дзён) яна жыла ў Навояў пры ўмове, што кожны дзень павінна была адзначацца ў паліцыі. Аднак у пачатку ліпеня адпачынак у Яна Навоя канчаўся, і ён выехаў у Банску Бістрыцу, яшчэ не ведаючы, пашлюць яго зноў у Італію ці яшчэ куды. Таму вырашыў адаслаць Марусю ў Трэнчын, да Веташкавых -- Якуба, які працаваў вартаўніком у бальніцы, ён добра ведаў.

Але Яну Навою ўжо не давялося ні вяртацца ў Італію, ні заставацца ў Банскай Бістрыцы -- са сваёй часцю ён прымкнуў да паўстанцаў, а пасля падаўлення паўстання адышоў з партызанскім атрадам у горы. Дадому ён вярнуўся толькі летам 1945 года.

Едучы ў Трэнчын, Маруся ўжо ведала, што ў Славакіі выбухнула паўстанне. Пасяліўшыся ў доме Веташкавых, яна крыху адпачыла, але марыла толькі аб адным: як хутчэй дабрацца да партызан.

І зараз мы дадзім слова Вользе Меравай, якая ў брашуры "Вам наша ўдзячнасць, героі Трэнчынскай Брэзіны" ўспамінае далейшыя падзеі так:

"Бацькі выправілі нас ва Угравец, дзе стаяла партызанская брыгада. На чыгунцы і на дарогах было поўна гардыстаў і фашыстаў. Да Уграўца мы дабраліся, але да партызан шляхоў не адшукалі і вярнуліся дадому. У мяне, як у краўчыхі, праца была, а ў Марусі -- не, ды яшчэ пачало здаваць здароўе. Мы клапаціліся пра яе, як толькі маглі. Вечарамі, калі добра цямнела, часам выходзілі і на вуліцу. Мы з ёю былі амаль аднолькавай паставы, таму яна насіла мае сукенкі. І хоць па характару яна была даволі замкнёнай, нешматслоўнай, але пры выпадку радавалася кожнай дробязі. Часта была задуменнай, а часам мы заўважалі, што яна і плакала. А калі распачыналася гаворка, яна ўспамінала пра сваіх найдаражэйшых людзей, якія засталіся ў далёкім Мінску, -- сваіх бацькоў і сясцёр. Муж яе загінуў у першыя ж дні вайны. Яна часта гаварыла мне, што пасля вайны я абавязкова павінна да іх прыехаць.

Шкада, што яна не дачакалася гэтай радаснай хвіліны. У кастрычніку 1944 года за ёю прыйшлі гестапаўцы. Яны забралі з сабой маці і Марыю. Праз некалькі дзён маці вярнулася, а Марыю мы ўжо не ўбачылі ніколі. Калі яе выводзілі з дому, апошнімі яе словамі былі: "Оля, я ўжо ніколі цябе не ўбачу".

Я тады гэтага не ўсвядоміла. Міналі тыдні, надышоў май -- радасны, вясёлы, з музыкай. Мы, маладыя, пілі свабоду, захлёбваючыся...".

На гэтым наша апавяданне пра Марыю, або Марусю Камінскую з Мінска, заканчваецца. Можа, яшчэ знойдуцца людзі, якія запоўняць прабелы ў напісаным намі яе жыццяпісе, можа, знойдуцца і дакументы, якія пацвердзяць здагадку, што ў Італіі, а можа і ў Славакіі Маруся выконвала важныя разведвальныя заданні.

Што пасля яе засталося? Адна фатаграфія -- на ёй яна разам з сяброўкай Вольгай Меравай, народжанай Веташкавай. Фатаграфаваліся, відаць, на дварах у Веташкавых, у Трэнчыне. Маруся на здымку -- прыгожая, сталая жанчына ў светлым касцюме і цёмным світары. Яна глядзіць на Вольгу, і на вуснах яе блукае ўсмешка.

І яшчэ засталася пасля яе мармуровая дошка ў Трэнчынскай Брэзіне з яе імем славацкімі літарамі: Maria Kaminska.

**Мілан ВАРСІК.**
**Пераклаў Алесь МАЖЭЙКА.**

**17**

Пасля чаго ўся этнічная тэрыторыя беларусаў апынулася ў складзе Расійскай дзяржавы, што спрыяла іх далейшай нацыянальнай кансалідацыі. Тым не менш, адміністрацыйны падзел праводзіўся без уліку этнічных межаў. Гэта добра бачна на этнічнай карце беларусаў, якую ў пачатку XX стагоддзя склаў расійскі акадэмік Яўхім Карскі, сам па паходжанню беларус. Не бралася пад увагу пры адміністрацыйным падзеле і эканамічная агульнасць раёнаў. Адзінае, на што арыентаваліся царскія чыноўнікі, дык гэта на зручнасць для сябе ў кіраванні краем. У канчатковым выніку царскі ўрад стварыў на літоўска-беларускіх землях даволі моцны адміністрацыйны апарат.

**ЗА РАБАВАННЕМ.** З 70-х гадоў XYIII стагоддзя пры ўрадзе дзейнічала спецыяльная Камеральная камісія для ўліку і апісання захопленых зямель. Вывучэннем гаспадаркі і прыроды Беларусі займаліся расійскія акадэмікі І.Ляпёхін (1773) і В.Севяргін (1803), рускі паэт і дзяржаўны дзеяч Г.Дзяржавін (1800).

У царскія рукі трапілі дзяржаўныя землі і сяляне былога Вялікага Княства Літоўскага (ці каралеўскія эканоміі і староствы), а таксама канфіскаваныя маёнткі тых мясцовых паноў, якія не захацелі падпарадкоўвацца Расіі і ад'ехалі за мяжу. Гэтыя багацці шчодра размяркоўваліся паміж рускімі генераламі -- заваёўнікамі Літвы-Беларусі -- і фаварытамі Кацярыны II. Крычаўскае староства атрымаў князь Рыгор Пацёмкін, Гомельскае -- граф Пётр Румянцаў, Чачэрскае -- граф Чарнышоў, Прапойскае -- князь Галіцын, Шклоўскае -- граф Зо-

**18**

рыч, Кобрынскае -- фельдмаршал Аляксандр Сувораў. Раздачы і перадачы ў арэнду дзяржаўных зямель разам з сялянамі працягваліся на Літве--Беларусі і пры Паўле I. Усяго да пачатку XIX стагоддзя руская арыстакратыя атрымала ва ўласнасць каля 1 400 тысяч беларускіх сялян, пераважная большасць якіх раней не ведала, што такое прыгон, бо пражывала на дзяржаўных землях. Новыя прыгоннікі не спяшаліся пакідаць сталіцу імперыі. Свае літоўска-беларускія маёнткі яны звычайна перадавалі мясцовым арандатарам, якія не былі зацікаўлены ў дабраякаснай і рацыянальнай апрацоўцы зямлі, бо з'яўляліся яе часовымі гаспадарамі. Драпежніцкая эксплуатацыя глебы спустошала яе і падрывала асноўнае багацце нашага народа.

**МІЛІТАРЫЗАЦЫЯ ГАСПАДАРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ.** З мэтай утрымання захопленых у 1772 годзе зямель у складзе Расійскай імперыі і ператварэння іх у надзейную пляцоўку для далейшай ваеннай экспансіі на поўдзень і захад царскі ўрад праводзіў тут інтэнсіўныя работы па паляпшэнню шляхоў зносін. Рамантаваліся і будаваліся дарогі, каналы, пераправы, чысціліся рэчышчы суднаходных рэк. Прыдняпроўе пакрывалася так званымі кацярынаўскімі гасцінцамі, шырыня якіх часам дасягала 20 метраў. Паабапал дарог высаджваліся бярозы, уздоўж іх ставіліся мураваныя верставыя слупы, крытыя бляхай. У 1806 годзе завяршылася будаўніцтва Бярэзінскага канала, які звязваў Днепр з Заходняй Дзвіной.

Пасля канчатковага захопу нашых зямель будаўнічыя работы пераносіліся на захад. Але тут

**19**

ужо шмат чаго было зроблена ў канцы XYIII стагоддзя літоўскімі магнатамі. Царскі ўрад узнавіў у 1803 годзе работу Агінскага канала, які злучаў Днепр праз Прыпяць з Нёманам.

Новыя дарогі і каналы ўзводзіліся таннымі рукамі прыгонных сялян Літвы--Беларусі. Мясцовыя паны сотнямі і тысячамі аддавалі іх за адпаведную плату ўрадавым прыказчыкам. Асабліва ахвотна пасылалі на будоўлі сваіх сялян рускія паны, якім яны дасталіся задарма, з ласкі царскага двара. Беларусы лічыліся добрымі грабарамі, працавітымі, цярплівымі. Іх праца выкарыстоўвалася па ўсёй імперыі.

Пры руплівай падтрымцы Кацярыны II рускія вяльможы, што мелі землі на Магілёўшчыне, адкрывалі тут даволі буйныя суконныя, парусінавыя, канатныя, шкляныя мануфактуры, на якіх зноў жа працавалі прыгонныя. Прамысловая прадукцыя адпраўлялася па Дняпру ў Херсон, дзе будаваўся чарнаморскі флот Расіі. Ён папоўніўся і 25 лёгкімі суднамі, якія прыплылі з Крычава. Там з 1785 года працавала суднабудаўнічая верф князя Пацёмкіна. Але найчасцей на поўдзень плыў мачтавы лес. Магілёўская, а потым і Мінская губерні сталі базай для замацавання Расійскай імперыі на Чорным моры.

Другі асяродак прадпрымальніцтва на Беларусі--Літве дастаўся Расіі ад Прусіі. Ён склаўся ў Беласточчыне на аснове замежных прыватных капіталаў, пераважна нямецкіх. Але царскі ўрад вельмі ім даражыў і ўсяляк падтрымліваў. Тут вельмі шпарка развівалася суконная і гарбарная вытворчасць, такая неабходная для таго, каб своечасова адзець і абуць рускае вой-

**20**

ска на заходніх рубяжах імперыі. Давезці ж туды стратэгічныя тавары з унутраных губерняў Расіі на тыя часы было не так проста. Дзякуючы гэтаму, тэкстыльная прамысловасць перакінулася з Беласточчыны і на суседнюю Гродзенскую губерню.

## 2.2. Змены ў становішчы жыхароў літвы--беларусі

**ПРАВАСЛАЎНЫЯ.** Расійская імперыя заваёўвала Вялікае Княства Літоўскае пад сцягам абароны правоў дысідэнтаў, ці праваслаўных вернікаў. Але ў канцы XYIII стагоддзя праваслаўных там было ўсяго 6,5 працэнта. Ніякіх рэальных выгад яны ад праваслаўнай Расіі не атрымалі. Нават набыткі святароў былі даволі сціплымі. Пагроза ж прымусовага пераводу праваслаўных у каталіцызм і уніяцтва практычна знікла яшчэ ў 1764 годзе, калі была прынята адпаведная пастанова сейма Рэчы Паспалітай.

**КАТОЛІКІ.** Становішча каталіцкай царквы ў складзе Расіі істотна не змянілася. Яна па-ранейшаму займала вядучае месца ў грамадстве краю. Католікам дазвалялася вольна выконваць свае абрады. За касцёламі і кляштарамі пакідалася іх маёмасць. Нават ордэн езуітаў, што быў скасаваны ў Рэчы Паспалітай, працягваў дзейнічаць на захопленых Расіяй ў 1772 годзе землях. У Пецярбургу добра разумелі, што без падтрымкі шляхецкай рэлігіі ўтрымацца на захопленых землях не ўдасца. Кацярына II заахвочвала каталіцкую шляхту да пераходу ў праваслаўе, ды поспеху не мела.

**УНІЯТЫ.** Зусім па-іншаму царскі ўрад

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**21**

ставіўся да уніяцкай веры, якая ахоплівала пераважна сялянства. Ён лічыў уніятаў ахвярамі каталіцкай экспансіі і імкнуўся вярнуць іх ва ўлонне праваслаўнай царквы. Пры гэтым царскія паслугачы дзейнічалі без асаблівых цырымоніяў. Збіралі людзей у храме і ўсякі раз, калі не сустракалі асаблівага супраціўлення, перапісвалі цэлымі прыходамі ў праваслаўе. Калі ж раз'юшаны натоўп выганяў "духоўных місіянераў", то і царкоўны прыход заставаўся на уніяцкім абрадзе. Такім "добраахвотным" чынам пры Кацярыне II у праваслаўе запісалася каля 600 тысяч уніятаў. Астатнія былі падпарад- аны Беларускай уніяцкай епархіі (1783), якая ла падуладнай ужо не каталіцкаму, а праваслаўнаму вышэйшаму духавенству.

Пры Паўле I гвалт над уніятамі быў прыпынены. Пачаліся адваротныя пераходы з праваслаўя ва уніяцтва. Новы імператар ускладаў на добра арганізаваную і матэрыяльна забяспеча- каталіцкую царкву вялікія надзеі ў справе ымання ў паслухмянасці жыхароў былой Рэчы Паспалітай. Таму не выпадкова ён хутка згадзіўся вярнуць уніятаў пад уладу каталіцкай іерархіі. І яна выкарыстоўвала гэтую перамену, каб зноў пераводзіць уніяцкіх вернікаў (як добраахвотна, так і пад эканамічным прымусам) у каталіцызм. Прыгонны селянін не мог не паслухацца свайго пана, калі той цягнуў яго ў касцёл.

Значыць, з далучэннем да Расіі рэлігійныя сваркі на літоўска-беларускіх землях не спыніліся.

**ПЕРШАЕ САСЛОЎЕ.** Літоўска-беларуская шляхта атрымала ўсе правы, што і рускае дваранства. Праўда, яна не знайшла ў царскай

**22**

імперыі былую "залатую вольнасць". Расійскай арыстакратыі ніколі не дазвалялася трымаць свае войска, будаваць крэпасці, гуртавацца ў канфедэрацыі. Але і ў былой Рэчы Паспалітай ад такіх прывілеяў пасля прыняцця канстытуцыі 1791 года прыйшлося адмовіцца. Панская Расія не магла пакрыўдзіць літоўска-беларускае панства, без падтрымкі якога царызм не мог бы паспяхова ўладарыць на захопленых землях. Шляхціцы і магнаты, як і раней, заставаліся ўласнікамі прыгоннага сялянства. Захапіўшы Вялікае Княства Літоўскае, Кацярына II фактычна выратавала закаранелых прыгоннікаў ад пагрозы вызвалення сялян, да якога імкнуліся ліберальна настроеныя землеўладальнікі былой Рэчы Паспалітай.

Больш таго, у дробнай і сярэдняй шляхты з'явілася нават нечаканая для яе магчымасць узмацніць уладу над сялянамі. Адміністрацыя Вялікага Княства Літоўскага была зусім бездапаможнай, і кожны абшарнік кіраваў сялянамі сваімі сіламі. А для тых, хто не меў сродкаў трымаць міліцыю, заставаўся адзіны выхад -- наладжваць з вяскоўцамі палюбоўныя адносіны. У прыгонных заставалася магчымасць не падпарадкоўвацца сваім гаспадарам. А таму сялянскія павіннасці ў перыяд Літоўскага Княства не вызначаліся высокімі памерамі. Руская ж улада была моцнай і звыклай да задушэння любой незадаволенасці прыгонных.

У літоўска-беларускай шляхты з'явілася права прадаваць сваіх прыгонных сялян без зямлі. У адпаведнасці з царскай Даравальнай граматай 1785 года дваранскія прывілеі яшчэ больш па-

**23**

шырыліся. Першае саслоўе пачало браць удзел у выбарных судах і мясцовым кіраванні. Акрамя таго, Кацярына II пакінула за мясцовай шляхтай права вінакурэння, хоць гэта і супярэчыла расійскім парадкам, згодна з якімі броварны промысел знаходзіўся ў руках дзяржавы і прыносіў ёй вялікія прыбыткі.

Карыстаючыся попытам з боку рускага войска на стратэгічныя тавары, больш спрытныя з магнатаў адкрывалі прыгонніцкія мануфактуры, дзеля мясцовай суконнай вытворчасці распачыналі гадоўлю танкарунных авечак, павялічвалі плошчы пасеваў. Палепшаныя шляхі зносін палягчалі транспарціроўку панскіх тавараў да рачных портаў і па рэках у замежжа.

Адзінае, што не магла вярнуць сабе шляхта, дык гэта былую палітычную ўладу: магчымасць самім вызначаць лёс сваёй Айчыны. Такіх, хто не захацеў служыць рускай імператрыцы і не прыняў прысягу на вернасць царскаму ўраду, аказалася няшмат: Радзівілы, Агінскія, Чартарыскія, Сапегі, Салагубы і некаторыя іншыя. А колькі было такіх, хто скарыўся, захаваўшы нянавісць да расійскіх захопнікаў, невядома. Не паміралі сярод шляхты і надзеі на ўзнаўленне Вялікага Княства Літоўскага пад пратэктаратам Расіі. Яны і вярталі непакорных магнатаў пад скіпетр рускага цара. У 1811 годзе між літоўска-беларускімі магнатамі на чале з князем Міхалам Агінскім і Аляксандрам I вяліся перамовы і абмяркоўваўся праект канстытуцыі аднаўленага Вялікага Княства Літоўскага. Дэлегацыя Агінскага, між іншым, уключыла ў праект і параграф аб вызваленні сялян ад прыгону

**24**

на працягу дзесяці год. Але вайна 1812 года змяніла планы расійскага імператара.

На Літве--Беларусі існаваў цэлы пласт дробнай шляхты, малазямельнай і нават беззямельнай. Маючы больш гонару, чым багацця, такая шляхта кармілася ля магнацкіх двароў (арандавала зямлю, служыла), а за тое ўсяляк падтрымлівала сваіх апекуноў, але звычайна варожа ставілася да расійскіх захопнікаў. Удзельная вага шляхты, з улікам дробнай, сярод насельніцтва Літвы--Беларусі даходзіла ў канцы XYIII стагоддзя да 12 працэнтаў. Такога значнага слоя арыстакратыі не ведала ні адна краіна.

Каб неяк нейтралізаваць яго варожасць, Кацярына II перасяляла збяднелую шляхту на вольныя дзяржаўныя землі поўдня Расіі, Павел I фарміраваў з яе складу афіцэрскі корпус рускага войска. Ды гэта праблему не вырашала. Тады Аляксандр I распачаў так званы разбор шляхты. Яна павінна была дакументальна даказаць свае шляхецкія правы, запісаныя ў прывілеях ці граматах літоўскіх князёў і польскіх каралёў. У адваротным жа выпадку ёй прапаноўвалася запісацца па выбару ў адно з падатных саслоўяў -- сялян ці мяшчан. Але і гэтае мерапрыемства зацягнулася на дзесяцігоддзі. Дробная шляхта моцна трымалася за сваю выключнасць, за свае традыцыі, што і дапамагала ёй супрацьстаяць царскай русіфікацыі і ў рэшце рэшт далучыцца да беларускага адраджэння.

# НЯХАЙ СПРЫЯЮЦЬ БОГ, ЧАС І ЛЮДЗІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

"Полымя", кніга А. Калубовіча "На крыжовай дарозе", ноты песні на словы Я. Купалы "Не загаснуць зоркі ў небе" . Багдан Андрусышын (Данчык) перадаў нам касету, пласцінкі з запісамі песень на словы паэта..." Людміла Канстанцінаўна ў сваім выступленні нагадала прысутным, якімі жывапіснымі, графічнымі, скульптурнымі работамі, крытычнымі даследаваннямі, успамінамі папоўніліся за апошні год фонды Купалаўскага музея.

Тэарэтычна-практычнымі можна назваць выступленні загадчыцы навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Аліцыі Шыбіцкай і старшага навуковага супрацоўніка Раісы Аўгуль. Іх выступленні грунтаваліся на праблемах стварэння асноўнай экспазіцыі маладога музея, якая павінна ахапіць перыяд ад старажытнасці да нашых дзён. Аліцыя Рычардаўна гаварыла аб непазбежнасці выкарыстання ў экспазіцыі муляжоў. Асабліва гэта тычыцца старажытнага перыяду, літаратурныя помнікі якога на тэрыторыі Беларусі амаль не захаваліся. Як прыклады муляжоў-экспанатаў, якія ў экспазіцыі выконваюць вялікую гісторыка-літаратурную, пазнаваўчую і эстэтычную функцыі, прысутным былі прадэманстраваны выраблены ў Санкт-Пецярбургу Друцкае евангелле (XIV стагоддзе) і Біблія Мацея Дзесятага (XVI стагоддзе).

Раіса Аўгуль на прыкладзе археалагічных знаходак XI--XIII стагоддзяў (праселкі, костка з малюнкамі жанчыны, культавы камень з літарападобнымі знакамі і выявамі), якія перадала ў дар музею археолаг Людміла Дучыц, пераконвала, як важна мець такія калекцыі Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры. "Гэтыя экспанаты, -- сказала Раіса Якаўлеўна, -- дазволяць найбольш поўна і жыццёва рэалізаваць навуковую канцэпцыю асноўнай экспазіцыі, стварыць пэўны часавы каларыт, глыбей зразумець далёкія, першабытныя, язычніцкія ўяўленні нашых продкаў".

Такія унікальныя экспанаты сапраўды з'яўляюцца вялікай каштоўнасцю не толькі музея, але і ўсёй нацыянальнай культуры.

Не абмінулі ўдзельнікі "круглага стала" і вельмі надзённае пытанне выдавецкай дзейнасці музеяў. Рэдкія бібліяграфічныя выданні, рукапісы, дакументы, якія застаюцца ў запасніках і не маюць шырокага доступу, утрымліваюць багаты гісторыка-літатратурны матэрыял, могуць істотна ўзбагаціць веды пра таго ці іншага пісьменніка, грамадскага дзеяча, пашырыць уяўленне пра шматфарбнасць і невычэрпнасць нацыянальна-культурных традыцый беларускага народа... Фонды музеяў адкрываюць шырокія магчымасці для падрыхтоўкі і выдання пэўных каталогаў, зборнікаў дакументаў, літаратурных падборак і г.д.

Актыўна і плённа працуюць у гэтым кірунку супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча, пра што распавядала ў сваім выступленні галоўная захавальніца фондаў Валянціна Бяляўская.

На пасяджэнні "круглага стала" прысутнічаў таксама галоўны спецыяліст НПФ "ІНЕАК" Аляксандр Плоткін. Ён адзначыў, што вырашэнне многіх згаданых вышэй праблем (і перш за ўсё ў навукова-фондавай рабоце і інфармацыйным абслугоўванні) залежыць ад прымянення электронна-вылічальнай тэхнікі. Як адзін з распрацоўшчыкаў аўтаматызаванай музейнай сістэмы (АМС), Аляксандр Міхайлавіч праінфармаваў прысутных аб ходзе праектавання і ўкаранення яе на практыцы.

Зараз ідзе праца над укараненнем першай чаргі сістэмы ў трох музеях: Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны.

Выкарыстанне АМС і, галоўным чынам, электроннага каталога дазволіць музейным супрацоўнікам, вучоным, студэнтам, школьнікам атрымаць доступ да інфармацыі пра музейныя экспанаты як на экспазіцыі, так і ў запасніках, аблегчыць іх тэматычны пошук.

Вынікі "круглага стала" падвёў дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь Леанід Хадкевіч. Ён адзначыў, што сустрэчы спецыялістаў-аднадумцаў маюць як тэарэтычны, так і практычны плён. Актыўны ўдзел супрацоўнікаў таго ці іншага музея ў абмеркаванні -- гэта ўжо паказчык дзейнасці ўстановы, твар яго музея. Узнятыя праблемы, дэманстрацыя пэўных экспанатаў, прыклады апісання цікавых навуковых пашпартоў, дасягненні фондавай працы з'яўляюцца школай для маладой змены музейшчыкаў. Пачутае і ўбачанае на пасяджэнні дае таксама маг[illegible]масць адчуць ступень [illegible]тоўнасці набыткаў у нацыянальным маштабе, садзейнічае выпрацоўцы крытэрыя далейшага камплектавання музейных фондаў, дазваляе аб'яднацца ў вырашэнні агульных праблем, укараненні новых форм дз[illegible]насці, імкненні пастаянна п[illegible]шаць эфектыўнасць прац[illegible] літаратурных музеяў.

Пажадана, адзначыў у выступленні Л. Хадкевіч, каб падобныя мерапрыемствы сталі традыцыйнымі. Аднак у будучыні неабходна пашырыць рамкі ўдзельнікаў і запрасіць прадстаўнікоў іншапрофільных музеяў, а таксама выкладчыкаў ВНУ, прадстаўнікоў Міністэрства культуры і друку.

Прайшло яшчэ адно пасяджэнне "круглага стала". Выказана набалелае. Прынята рэзалюцыя. Застаецца толькі працаваць і паступова вырашаць нялёгкія, але непазбежныя задачы, якія стаяць перад музеямі.

Няхай жа спрыяюць гэтаму Час, Бог і Людзі!

**Тэрэза ГОЛУБ,**
**вучоны сакратар**
**Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.**

**НА ЗДЫМКУ: Біблія Мацея Х (XVI ст.). Друцкае евангелле (XIV ст.). (Муляжы).**



---

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

---

*ДЗІЦЯЧЫ КАМЕРНЫ АРКЕСТР У ГАЛАНДЫІ*

# ПАДЗЯКА ЗА ПРЫГОЖ[illegible]Ю МУЗЫКУ

28 сакавіка маленькі гарадок Нейкерк у Галандыі, што ў 1 800 кіламетрах ад Мінска, сустрэў нас морам кветак. Цюльпаны, нарцысы, квітнеючыя вішні і кусты -- усё гаварыла тут аб вясне, што прыходзіць на гэтую зямлю на месяц раней за нашу. І, вядома, усмешлівыя твары нашых будучых сяброў. Мы -- гэта камерны аркестр Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі з кіраўніком і дырыжорам Уладзімірам Перліным. Амаль месяц мы адпачывалі, знаёміліся з краінай, яе жыхарамі, давалі дабрачынныя канцэрты.

Уражанняў у нас засталося вельмі многа. Але, думаю, што не менш было і ў тых, хто наведаў нашы канцэрты. Было многа канцэртаў для школьнікаў усіх узростаў, канцэрты ў пратэстанцкіх цэрквах, у дамах састарэлых, у атэлях, у музычнай школе горада Заандама і многіх іншых гарадах. Поўныя ўражанняў вярталіся нашы дзеці дамоў. Аб канцэртах лепш, чым самі слухачы, ніхто, напэўна, не зможа сказаць.

Вось некаторыя з выказванняў:

"Рэакцыя дзяцей была вельмі добрай. Я не чуў ні аднаго негатыўнага водгука. І я думаю, што гэта вялікая пахвала аркестру. Таму што нашы навучэнцы не знаёмы з класічнай музыкай. Вялікая падзяка аркестру, яго кіраўніку і настаўнікам. Спадзяюся калі-небудзь пачуць іх яшчэ.

З найлепшымі пажаданнямі

**Карл ван ВЕНЕЛІА, настаўнік музыкі** (г. Амерсфорт)".

"Мне вельмі спадабаўся ваш аркестр. Іграючы, вы захапляеце слухачоў, складаючы з імі адзінае цэлае. Радасна бачыць такіх таленавітых маладых людзей здалёку.

**Настаўнік матэматыкі** (г. Цэйст)".

"Гэта нешта фантастычнае, незабыўнае! Ваша музыка ўвайшла ў нашы сэрцы назаўсёды!

**Грэта дэ Г[illegible]ФА** (г. Нейкерк)".

"Сёння ў нас цудоўны вечар! Што нас больш за ўсё ўразіла -- гэта глыбокае пачуццё, якое вы ўклалі ў сваю музыку. Ігра юных музыкантаў уразіла нас. Мы з жонкай сядзелі ў першым радзе ў царкве, бачылі і чулі выкананне вельмі блізка. Вялікае дзякуй за радасць, якую вы даставілі нам сваёй музыкай.

Ды благаславіць вас Гасподзь!

**Люютэн і Дінекен БАЮНДА** (г. Цэйст)".

"Гэта было ў снежні, калі мы ўпершыню пачулі пра мінскі ліцэй, пра маладзёжны камерны аркестр з Мінска. Мы тады не маглі ўявіць, хто яны, як іграюць і што чакаць ад аркестра.

Калі Аб дэ Грааф папрасіў нас прыняць гасцей з Мінска, мы згадзіліся. І сям'я наша не пашкадавала. Нам было радасна ўсведамляць, што мы можам паказаць дзецям, як жывём тут, падзяліцца з імі ўсім, што маем самі, аддаць ім сваю любоў, стаць іх сям'ёй.

Першы тыдзень для іх тут быў тыднем знаёмства з горадам, краінай, адзін з адным. Хаця, я хачу сказаць, нашы дзяўчынкі Оля Шулякоўская і Галя Трухан адчулі сябе як дома вельмі хутка. Мы разам ігралі на фартэпіяна, мелі асалоду ад маленькіх канцэртаў, калі яны займаліся на скрыпцы і цымбалах.

Неўзабаве мы пазнаёміліся з музыкай аркестра. Нам не давялося доўга чакаць, таму што ўжо 30 сакавіка яны далі свой першы канцэрт і адразу пакарылі нас. Мы пачулі цудоўную музыку. Як таленавіта, як лёгка, як захапляюча яна гучыць!!! І гэта было толькі пачаткам.

Мая сям'я змагла пабываць на многіх канцэртах аркестра. І ўсякі раз, слухаючы іх, мы радаваліся. Асабліва "Аве Марыя" Качыні і "Ісус Хрыстос -- суперзорка" Уэбера напаўнялі нас высокімі пачуццямі, выклікаючы ў многіх слёзы.

З высокім захапленнем мы слухалі цымбалістку Галіну Трухан, флейтыстку Дашу Бельцюкову, піяніста Сяргея Смірнова. Іх сольнае выкананне было дасканалым. Нават двое самых маленькіх віяланчэлістаў Гарык і Леша, былі для свайго ўзросту цудоўнымі! Сапраўды сэрца напаўняецца цяплом, калі бачыш і чуеш іх выкананне.

Прыемна бачыць, што кожны выканаўца дасканала валодае сваім інструментам, мае віртуозныя даныя, лірызм і г.д. Калі б гэтага не было, не было б ансамбля як адзінага цэлага, які захапляе і ўражвае слухачоў сваёй ігрой. Аркестр складае адзінае цэлае з эмацыянальным, артыстычным дырыжорам Уладзімірам Перліным. Яны іграюць адзін з адным і адзін дзеля аднаго.

Многія ў нас слухалі камерны аркестр упершыню, але адразу палюбілі такую, здавалася, далёкую ад іх музыку. Мы можам дакладна сказаць, што тыя, хто застаўся дома і не прыйшлі паслухаць хаця б адзін канцэрт, многае страцілі. На жаль, усяму прыходзіць канец. Мы ўпэўнены, як ціха і пуста стане ў Нейкерку, калі аркестр і ўсе, хто яго суправаджаў, пакінуць нас і вернуцца ў Мінск ў свае сем'і.

Дзякуй, дарагія сябры, за вашу прыгожую, найвышэйшага класа музыку, за тыя цудоўныя дні, якія мы правялі разам!

Самага найлепшага вам у будучыні! **Ян і Мэры БЛЮМ**".

**Ніна КАНДРАЦЕНКА.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Нагадваем нашым чытачам, што ў прадпрыемствах "Саюздруку" і паштовых аддзяленнях ідзе падпіска на "Голас Радзімы" на трэці квартал 1994 года. Спяшайцеся! Падпіска доўжыцца з 5-га мая па 15-е чэрвеня.**

# МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНА

Вось, нарэшце, і з'явіўся на Беларусі першы абласны гісторыка-краязнаўчы часопіс "Магілёўская даўніна". Таксама першы, як калісьці музей (1867 год) і бібліятэка (1827 год). Ён быццам бы прадраўся праз смугу дзесяцігоддзяў рэпрэсій, забарон, бяспамяцтва, каб яшчэ раз падкрэсліць, што горад з такімі магутнымі гісторыка-культурнымі традыцыямі не можа ператварыцца ў шэры перыферыйны горад з найгоршай экалагічнай, крымінагеннай сітуацыяй, з жыхарамі, якіх хвалюе толькі ежа ды гарэлка. Але я, прынамсі, як той паэт, заўсёды верыў, што ён заснуў не на вякі...

Часопіс быў надрукаваны ў Магілёўскай абласной друкарні і з'явіўся ў сакавіку 1994 года, нягледзячы на тое, што на вокладцы і яшчэ ў трох месцах стаіць дата 1993 год. З-за адсутнасці нумара ствараецца ўражанне, што выданне першае і апошняе. Аб фінансавых цяжкасцях часопіса гаворыцца ва ўступным артыкуле. На жаль, няма звестак пра наклад і рэдактара, а таксама пра рэгістрацыю выдання. З цяжкасцю можна даведацца і пра фундатараў ці выдаўцоў. Гэта Упраўленне архітэктуры і горадабудаўніцтва Магілёўскага гарвыканкама, Музей гісторыі Магілёва, дабрачынны фонд "Адраджэнне" пры Магілёўскай арганізацыі Беларускага народнага фронта. Варта адзначыць добрую вокладку, дзе густоўна стасуецца найменне з мудрагелістымі першымі літарамі, пячатка з выявай герба Магілёва і прыгожы лінарыт Б.Камарова -- магілёўскі летапісец Трафім Сурта. Адзначым даволі высокую паліграф[illegible]ю якасць друку для аблас[illegible] ўзроўню.

На больш чым сотні старонак можна пазнаёміцца з разнастайнымі артыкуламі дванаццаці аўтараў, у тым ліку з іх фотаздымкамі і кароткімі біяграфічнымі анатацыямі. Зразумела, не абышлося без цікавых момантаў, напрыклад, пад рубрыкай "Асоба ў гісторыі" ідзе фотаздымак хлопца з магілёўскага музея з біяграфічнай даведкай і толькі ніжэй -- назва артыкула: "Раманаў: археолаг і археограф Магілёўшчыны".

У гэтай рубрыцы яшчэ два цікавыя артыкулы: У.Ліўшыца "Дело N 1065", дзе апісваюцца судовыя матэрыялы, звязаныя з арыштам і смерцю М.Гарэцкага, і артыкул Ю.Васілеўскага "Вядомы даследчык Усходняй Беларусі" пра трагічны лёс краязнаўца, гісторыка, педагога і публіцыста Данілы Васілеўскага, рэпрэсіраванага ў 1936 годзе. Сюды структурна падыходзіць нарыс "Патрыярх магілёўскага краязнаўства" пра лёс і краязнаўчую працу унікальнага магілёўца Гераніма Філіповіча, які больш за 30 год грунтоўна даследуе Магілёўшчыну.

Наогул, сама кампаноўка часопіса і рубрыкі пакідае жадаць лепшага. Вось, напрыклад, у рубрыцы "Публікацыі" (?) надрукаваны артыкул географа Радзеўскага "Магілёўская губерня, акруга, вобласць", дзе даецца сур'ёзны аналіз адміністрацыйнага падзелу ў 1772--1990 гадах і наймення краю. Рубрыка "Погляд вучонага" прадстаўляе артыкул доктара гістарычных навук А.Рыера "Шляхі станаўлення грамадства ў сярэднявеччы: прычыны адрозненняў і ўрокі гісторыі", дзе выказваюцца цікавыя думкі, у прыватнасці, пра тое, што хутчэйшае фарміраванне германскіх тэрыторый звязана з ранейшым усталяваннем інстытута ўласнасці на зямлю.

У рубрыцы "Мастацтва" змешчаны артыкул Т.Арасланавай "Папяровыя карункі (спадчына і сучаснасць)", дзе ідзе размова пра выцінанкі. У рубрыцы "Музейныя справы" -- артыкул І.Пушкіна "Добраахвотныя памочнікі музеяў", дзе даецца рэфератыўны матэрыял з часопіса ЮНЕСКА "Музей" пра вопыт Сусветнай федэрацыі сяброў музеяў.

У "Магілёўскай даўніне" прадстаўлены таксама і крыніцы. Гэта "Вандроўкі ў Масковію барона Меерберга", дзе апісваецца наведванне ў 1662 годзе Магілёва. Артыкул С.Бяспанскага "На пуцявінах краязнаўчага адраджэння Магілёўшчыны" змешчаны ў рубрыцы "Гісторыя і лёсы". У ім аўтар разважае пра пакутлівы лёс краязнаўства на Магілёўшчыне. Закрываюць часопіс хроніка падзей ды анатацыі на змест.

Такім чынам, нягледзячы на ўсе хібы першага бліна, мусім адзначыць, што выданне "Магілёўскай даўніны" з'яўляецца адметнай з'явай у культурным жыцці Беларусі.

**Ян МАГІЛЁВЕЦ.**






Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 650. Падпісана да друку 16. 5.1994 г.